Козік Л.А. Грамадска-палітычны крызіс 1956 г. у Польшчы: вытокі, ход, вынікі / Л.А. Козік // Российские и славянские исследования : науч. сб. Вып. 7 / редкол. : А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск : БГУ, 2012. С. 211-216.

**Л. А. Козік**

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ КРЫЗІС 1956 г. У ПОЛЬШЧЫ: ВЫТОКІ, ХОД, ВЫНІКІ *

Падзеі, якія адбываліся ў сярэдзіне 1950-х гг. у СССР і некаторых краінах сацыялістычнага блоку, атрымалі назву «адліга» па аналогіі з вершам І. Эрэнбурга. Яны былі звязаны з пэўнымі элементамі лібералізацыі, якая назіралася пасля смерці І. В. Сталіна ва ўнутраным жыцці Савецкага саюза і еўрапейскіх сацыялістычных краін. Штуршком да іх паслужыла барацьба за ўладу ў СССР, праявай якой сталі калектыўнае кіраванне, працэс над Л. П. Берыя, абвяшчэнне амністыі і г. д. Але галоўнай падзеяй у гэтым шэрагу стаў даклад М. С. Хрушчова аб кульце асобы і яе наступствах на ХХ з'ездзе КПСС.

Першыя праявы «адлігі» ў Польшчы пачалі назірацца яшчэ ў 1954 г. Істотным імпульсам да іх стаў пабег палкоўніка дзяржбяспекі Ю. Святла і раскрыццё механізма кіравання Польшчай у цэлым і спецслужбамі ў прыватнасці ў перадачах радыёстанцыі «Вольная Еўропа». Гэты факт у значнай ступені спрычыніўся да ліквідацыі ў 1954 г. Міністэрства грамадскай бяспекі і вызвалення з турмы былога першага сакратара Польскай рабочай партыі У. Гамулкі.

Пра неабходнасць перамен у кіраванні Польскай аб'яднанай рабочай партыяй (ПАРП) і дзяржавай упершыню загаварылі на ІІІ пленуме ЦК ПАРП у студзені 1955 г. Гаворка ішла пра выкарыстанне калегіяльных форм кіравання, уліку меркавання грамадства, дазвол крытыкі і абмежаванне ролі апарату бяспекі [1, s. 167—168].

Пастановы аб спрашчэнні некаторых форм дзейнасці кіруючых органаў пачалі рэалізоўвацца ўжо ў першай палове 1955 г. Яны былі звязаны з імкненнем пазбавіцца ад празмернай бюракратызацыі, павялічыць ролю народных Саветаў, дакладна вызначыць паўнамоцтвы ўрада (чаго раней не было), спробамі стварыць Сейм сапраўдным вышэйшым органам улады (звычайна ён ішоў за ініцыятывамі Дзяржаўнага савета і ПАРП) [2, s. 126—127].

**Роля перыядычных выданняў і інтэлігенцыі ў пашырэнні «адлігі».** Рашэнні ІІІ пленума ЦК ПАРП і перамены ў палітычным жыцці Польшчы вельмі хутка знайшлі адлюстраванне ў афіцыйнай прэсе, у першую чаргу ў штотыднёвіках «Новая культура» і «Пшэглёнд культуральны». Важную ролю ў гэтым адыграла аслабленне цэнзуры і пэўная лібералізацыя ў правядзенні культурнай палітыкі. З восені 1955 г. сапраўдным рупарам перамен стаў штотыднёвік «Папросту», які са звычайнай «камсамольскай» газеты пераўтварыўся ў выданне студэнтаў і маладой інтэлігенцыі. Матэрыялы і дыскусіі, якія былі прадстаўлены на старонках згаданых газет і датычыліся вынікаў пасляваеннага развіцця, перагібаў у будаўніцтве сацыялізму, праблем у развіцці навукі і культуры і іншага, вельмі часта выходзілі за межы, акрэсленыя партыйнымі пастановамі і распараджэннямі, а таму сродкам уздзеяння на «вальнадумства» і «варожую ідэалогію» была цэнзура, умяшальніцтва якой стала павялічвацца [падрабязней гл.: 3, с. 97—98].

Кіраўніцтва Польшчы была вымушана рэагаваць на праблемы, якія ўздымаліся ў грамадстве, але часцей за ўсё не магло дакладна акрэсліць сваю пазіцыю. У гэтай сітуацыі яго спробы

* Статья выполнена в рамках Государственной программы научных исследований на 2011—2015 гг. «Гуманитарные науки как фактор развития белорусского общества и государственной идеологии» (ГПНИ «История, культура, общество, государство»).

**Козик Любовь Антоновна** — доцент кафедры истории южных и западных славян Белорусского государственного университета, кандидат исторических наук

замоўчыць пэўныя пытанні ці выступіць з асуджэннем крытыкі хібаў у дзейнасці партыйна-дзяржаўных інстытутаў вялі да імклівага падзення аўтарытэту ПАРП. Яшчэ на пачатку сакавіка 1955 г. сярод галоўных прычын «цяжкасцей на ідэалагічным і культурным фронце» лідары ПАРП называлі «запозненую глыбокую і канкрэтную крытыку дагматызму і іншых адмоўных з'яў мінулага перыяду з боку партыі» [4, s. 155].

Пасля XX з'езда КПСС і смерці Б. Берута (12 сакавіка 1956 г.) было прынята рашэнне аб распаўсюджанні і абмеркаванні на адкрытых сходах пярвічных партыйных арганізацый тэксту даклада М. С. Хрушчова «Аб кульце асобы і яго наступствах» [4, s. 220]. Вельмі хутка стала зразумела, што дыскусіі пачалі выходзіць з-пад уплыву ПАРП і набываць малапрыемны для ўлады характар. У сувязі з гэтым 11 красавіка 1956 г. сакратарыят ЦК прапанаваў абмежавацца пераказам (а не зачытваннем, як было раней) зместу даклада Хрушчова толькі сярод членаў партыі. Пры гэтым адзначалася неабходнасць кіраваць ходам абмеркавання праз паказ праблем у міжнароднай сітуацыі, «перадавой ролі СССР у барацьбе за мір, вялікага значэння 6-годкі для далейшага гаспадарчага развіцця СССР і ўзмацнення сусветнай сацыялістычнай сістэмы», і толькі пасля гэтага акрэсліваць задачы, якія стаяць перад ПАРП і Польшчай [4, s. 221].

Дыскусіі, якія адбываліся падчас знаёмства з дакладам Хрушчова, часта падаграваліся публікацыямі ў сродках масавай інфармацыі. У сувязі з гэтым партыйнае кіраўніцтва вырашыла пайсці на правядзенне персанальных змен у рэдакцыях газет «Трыбуна люду», «Новая культура», Польскага радыё і самой цэнзуры, а таксама абмеркаванне паводзін, звязаных з «антыпартыйнай пазіцыяй у публікацыях ці выказваннях на пасяджэннях», шэрагу партыйных дзеячаў [4, s. 230]. Але такія крокі не зменшылі накал дыскусій. Распаўсюджанне тэксту даклада Хрушчова прывяло да паглыблення палітычнага і ідэалагічнага крызісу ў Польшчы.

**Актывізацыя рабочых выступленняў.** Значную ролю ў развіцці падзей у ПНР адыгрывала цяжкае матэрыяльнае становішча значнай часткі насельніцтва. Адваротным бокам пабудовы сацыялізму і высокіх статыстычных паказчыкаў стала праблема нізкіх заробкаў і нявырашанасць шэрагу сацыяльных пытанняў, што выклікала незадаволенасць рабочых. Яны пачалі заяўляць пра свае правы, затрымку ў выплаце заробку, завышанасць нормаў выпрацоўкі. Пікам іх выступленняў сталі чэрвеньскія 1956 г. падзеі ў Познані.

28 чэрвеня 1956 г. рабочыя машынабудаўнічага завода імя І. Сталіна выйшлі на вуліцы горада ў знак пратэсту супраць павышэння нормаў выпрацоўкі. Колькасць удзельнікаў дэманстрацыі хутка расла, а сама яна, пачаўшыся з эканамічных патрабаванняў, пераўтварылася ў антысавецкае і антыдзяржаўнае выступленне. Вельмі хутка выйшаўшыя на вуліцу людзі захапілі ваяводскі камітэт ЦК ПАРП, турму, дзе забралі зброю, разбілі станцыі, якія заглушалі заходнія радыёперадачы, і накіраваліся да будынку Службы бяспекі (так у Польшчы называліся спецслужбы). Польскае кіраўніцтва аддала загад выкарыстаць супраць дэманстрантаў зброю, што прывяло да праліцця крыві. Ахвярамі вулічнай барацьбы сталі 73 чалавекі (з іх 63 — грамадзянскія асобы), больш за 500 былі паранены [5, s. 219].

Першапачаткова польскае кіраўніцтва ўбачыла ў познаньскіх выступленнях дзейнасць «падпольнага штаба» і «імперыялістычных агентаў» (у гэты час у горадзе праходзіў Міжнародны кірмаш), а само выступленне акрэсліла як «правакацыю» [4, s. 247, 249]. На пасяджэнні Палітбюро 3 ліпеня 1956 г. была дадзена іншая ацэнка прычын незадаволенасці рабочых: памылкі ў гаспадарчай палітыцы, бюракратызм, памылковыя дзеянні адміністрацыі і міністэрстваў. Дадатковымі фактарамі былі названы памылкі і недахопы ў палітыка-ідэалагічнай працы, няправільная прапагандысцкая лінія шматлікіх культурных выданняў, якая «фарміравала варожыя настроі і меркаванні», і той факт, што частка членаў партыі паддалася «ціску варожай прапаганды». Прысутныя на пасяджэнні адзначылі, што менавіта «празмернае ўжыванне крытыкі, асабліва пасля XX з'езда [КПСС], некаторымі выданнямі прывяло да падрыву аўтарытэту партыйнага кіраўніцтва і дзяржаўнай улады» [4, s. 251]. Такім чынам,

польская партыйна-дзяржаўная вярхушка паспрабавала аб'яднаць рэальныя прычыны грамадскага крызісу з іх «ідэалагічна вывераным» абгрунтаваннем. Канчатковая ацэнка падзей, дадзеная старшынёй камісіі па даследаванні прычын і характары выступленняў у Познані Э. Герэкам, гучала наступным чынам: «...познаньскія падзеі мелі характар варожай, антынароднай дыверсіі і палітычнай правакацыі», якая выкарыстала незадаволенасць рабочых цяжкай эканамічнай сітуацыяй у краіне [4, s. 256, 259].

Падаўленне выступленняў у Познані, як і прэвенцыйнае павышэнне заробкаў на некаторых прадпрыемствах, не спыніла росту незадаволенасці рабочых. Аднак з лета 1956 г. яна праяўлялася ў іншых формах — рэзалюцыях на сходах, петыцыях, свядома павольным тэмпе працы, распаўсюджанні лістовак антыдзяржаўнага і антысавецкага зместу [6, s. 112—141].

**Унутрыпартыйная сітуацыя.** Складана сказаць, наколькі вясной 1956 г. польскае кіраўніцтва разумела глыбіню крызісу. Яно хутчэй рэагавала на дыскусіі ў партыйных і культурных арганізацыях, сродках масавай інфармацыі і пры гэтым беспаспяхова спрабавала знізіць іх вастрыню. Пасля смерці ў сакавіку 1956 г. Б. Берута першым сакратаром ЦК ПАРП быў абраны Э. Охаб. Гэты выбар быў зроблены не без уплыву СССР і фактычна паспрыяў адхіленню ад улады бліжэйшых паплечнікаў Берута — Я. Бермана і Г. Мінца.

Сітуацыя ў краіне неаднаразова абмяркоўвалася на пасяджэннях Палітбюро і Сакратарыята ЦК ПАРП. Стала яна і прадметам жорсткіх дыскусій на VII пленуме партыі (18—28 ліпеня 1956 г.). Па выніках працы ЦК накіраваў ліст пярвічным партыйным арганізацыям, у якім акрэсліў сваю пазіцыю па самых розных пытаннях палітычнага і эканамічнага развіцця Польшчы. У ім адзначалася, што на працягу некалькіх месяцаў ішлі пошукі шляхоў рэалізацыі пастаноў III пленума па дэмакратызацыі партыйнага, дзяржаўнага і гаспадарчага жыцця, развіццю рабочай дэмакратыі на прадпрыемствах, ліквідацыі бюракратыі і хуткаму паляпшэнню ўзроўню жыцця насельніцтва. Але спазненне, з якім партыйнае кіраўніцтва рэагавала на актуальныя ідэалагічныя, палітычныя і эканамічныя пытанні, а таксама «адсутнасць адпаведнага адпору рознага роду антыпартыйным выпадам» сталі прычынай «палітычнай дэзарыентацыі і дэмабілізацыі ў шматлікіх партыйных арганізацыях» [4, s. 337—338].

Упершыню на VII пленуме загаварылі пра наяўнасць у ПАРП пэўных груп, існаванне якіх было асуджана [4, s. 342]. Справа ў тым, што з канца 1954 г. сярод вышэйшага партыйнага кіраўніцтва паступова сталі складвацца дзве групоўкі: прыхільнікаў старых камандна-адміністрацыйных метадаў кіравання (іх называлі «натолінцамі» — па назве раёна Варшавы, дзе яны збіраліся ва ўрадавым доме адпачынку) і тых, хто выступаў за дэмакратызацыю партыйнага жыцця і адмову ад дагматычнай, савецкай, мадэлі пабудовы сацыялізму (так званыя «пулавяне» — па назве варшаўскай вуліцы, дзе яны жылі). Першыя лічылі, што сацыялістычная сістэма была і застаецца адзінай правільнай, а за здзейсненыя ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гг. «перагібы» адказнасць нясуць канкрэтныя асобы, якія «здрадзілі» прынцыпам сацыялізму, а таму павінны быць пакаранымі. Галоўнымі вінаватымі называлі Б. Берута, Я. Бермана, Г. Мінца, падкрэсліваючы пры гэтым іх яўрэйскае паходжанне. У сваю чаргу «пулавяне» выступалі за ўмераную дэмакратызацыю і большую незалежнасць ад Масквы. Яны гаварылі пра неабходнасць правядзення эканамічных рэформ, пашырэнне рабочага самакіравання, лібералізацыі культурнага і навуковага жыцця. Прывабнасць ідэй «пулавян» азмрочваў той факт, што ў свой час яны былі актыўнымі правадырамі сталінскай палітыкі. Іх апаненты лічылі, што за выступленнямі на карысць рэформ і лібералізацыі хаваецца жаданне пазбегнуць адказнасці за зробленае [7, s. 82—83; 3, с. 109—110].

**Уладзіслаў Гамулка: вяртанне да ўлады.** Ва ўмовах нарастання палітычнага крызісу ў калідорах улады пачалі гаварыць пра неабходнасць пошуку асобы, якая магла б задаволіць чаканні як грамадства, так і партыйнай наменклатуры. У гэтай сітуацыі ўвага была звернута на У. Гамулку, які ў 1951 г. быў арыштаваны па абвінавачанню ў праванацыяналістычным ухіле, а ў снежні 1954 г. без агалоскі выпушчаны на свабоду.

У сувязі з тым што распачаць непасрэдныя перамовы з Гамулкам не ўяўлялася магчымым, улада пайшла бочным шляхам. 26 сакавіка 1956 г. у газеце «Трыбуна люду» з'явіўся артыкул галоўнага рэдактара, кіраўніка аддзела прапаганды і сакратара ЦК ПАРП Е. Мараўскага, у якім выкрывалася «гамулкаўшчына». У адказ на гэта Гамулка накіраваў у рэдакцыю ліст, дзе адзначыў фальшывасць прыведзеных абвінавачанняў [4, s. 227]. Больш таго, 9 красавіка ён звярнуўся да Палітбюро ЦК ПАРП з просьбай растлумачыць стаўленне партыйнага кіраўніцтва да яго асобы. Падставай для гэтага стала паведамленне першага сакратара ПАРП Э. Охаба пра рэабілітацыю Гамулкі і зняцці з яго ўсіх абвінавачанняў [4, s. 227—228].

9 мая 1956 г. на пасяджэнні Палітбюро ЦК ПАРП была агучана інфармацыя аб праведзенай З. Новакам і Ф. Мазурам размове з Гамулкам, якую вырашылі абмеркаваць пазней [8, s. 164]. Ужо 17 мая 1956 г. на пасяджэнні Палітбюро ЦК ПАРП А. Завадзкаму і Ф. Мазуру даручылі правесці перамовы з Гамулкам [4, s. 241]. У сувязі з тым што партыйнае кіраўніцтва па-ранейшаму настойвала на правананацыяналістычным ухіле, з чым апошні не пагаджаўся, ён звярнуўся да члена палітбюро А. Завадзкага з лістом, у якім запытаў пра магчымасць растлумачыць сваю пазіцыю на пасяджэнні ЦК ПАРП [4, s. 244—245]. Аднак хуткага адказу не атрымаў. На працэс перамоў паўплывалі выступленні рабочых у Познані.

У ліпені 1956 г. «справа Гамулкі» зноў уздымалася на пасяджэннях Палітбюро і VII пленуме ЦК ПАРП. У прыватнасці, было прынята рашэнне вярнуць яму партбілет, увесці ў склад пярвічнай партыйнай арганізацыі пры ЦК ПАРП і працягнуць перамовы. Акрамя таго, на VII пленуме ЦК былі знятыя абвінавачанні з яго бліжэйшых паплечнікаў — М. Спыхальскага і З. Клішкі, якія былі арыштаваныя ў пачатку 1950-х гг. [4, s. 328, 331, 334—335, 342].

Як справядліва адзначае польскі даследчык А. Фрышке, VII пленум ЦК ПАРП не змог пераадолець крызіс і выбраць у вышэйшыя органы людзей, якія б адначасова карысталіся аўтарытэтам і ў партыі, і ў грамадстве і маглі б стабілізаваць сітуацыю ў краіне, дзе падзеі імкліва развіваліся ў некарысным для ПАРП напрамку. Да актыўных дыскусій і публікацый у друку «далучыліся» антысавецкія настроі, што стала выклікаць усё большы непакой кіраўніцтва СССР. У гэтых абставінах адсутнасць сярод польскіх партыйна-дзяржаўных дзеячаў канцэпцыі далейшага развіцця прыводзіла да тупіковай сітуацыі, калі на хвалі «адлігі» асмялеўшае грамадства пачало рашуча выступаць не толькі з крытыкай мінулай эпохі, але і з крытыкай дзеючай улады, якая, як лічылася, адмаўляецца ад перамен [1, s. 187, 191].

На фоне росту незадаволенасці, з аднаго боку, польскага грамадства, з другога — кіраўніцтва ПАРП, а з трэцяга — савецкіх лідараў існуючай у Польшчы сітуацыяй неабходнасць пошуку асобы, якая б магла задаволіць у той ці іншай ступені ўсіх, стала відавочнай. У ЦК ПАРП усё больш схіляліся да меркавання, што такой асобай можа быць толькі У. Гамулка, які карыстаўся папулярнасцю сярод розных слаёў насельніцтва. Сяляне памяталі, што ён выступаў супраць калектывізацыі, а таму спадзяваліся, што гвалтоўна створаныя калгасы будуць распушчаны, рабочыя разлічвалі на паляпшэнне матэрыяльнага становішча, інтэлігенцыя — на большую свабоду слова, а наменклатура — на тое, што зможа застацца пры ўладзе. Пры гэым партыйныя дзеячы былі ўпэўнены ў яго вялікім вопыце партыйнай працы, веданні механізмаў улады і, магчыма, гэта было самым галоўным, вернасці самой ідэі сацыялізму. Менавіта па гэтай прычыне ў жніўні — верасні 1956 г. прадстаўнікі вышэйшых улад правялі з ім шэраг перамоў, вынікам якіх стала разуменне неабходнасці і нават непазбежнасці вяртання палітыка да ўлады.

12 кастрычніка 1956 г. Гамулку ўпершыню запрасілі на пасяджэнне Палітбюро ЦК, дзе з дакладам выступіў Э. Охаб. У дыскусіі прыняў удзел і Гамулка. Ён гаварыў пра неабходнасць правядзення больш самастойнай палітыкі ў дачыненні да СССР, непазбежнасці дыскусій у партыі, змяншэнні колькасці партапарату, павелічэнні сферы дзейнасці ўрада. Гамулка выказаўся за збалансаваную палітыку ў сельскай гаспадарцы, аднолькавае стаўленне да калектыўнай і індывідуальнай формаў гаспадарання. Яго выказванні былі занадта радыкальнымі і пераклікаліся з публікацыямі штотыднёвіка «Папросту» [8, s. 191; 1, s. 194—195].

На наступным пасяджэнні 15 кастрычніка, калі адбывалася дыскусія па дакладзе і праекту пастановы VIII пленума ЦК ПАРП, было прынята рашэнне ўвесці Гамулку, які прысутнічаў на сустрэчы, М. Спыхальскага, З. Клішко і І. Лога-Савіньскага ў склад ЦК, а пачатак працы пленума адкласці на 19 кастрычніка [4, s. 362].

Аб росце ўплыву і значэнні раней апальнага палітыка сведчыў той факт, што 17 кастрычніка ён прыняў удзел у дыскусіі па дакладзе і праекце пастановы VIII пленума ЦК ПАРП і быў накіраваны ў камісію па разглядзе кандыдатур патэнцыяльных членаў Палітбюро, ЦК і прэзідыума ўрада. Па выніках працы быў прапанаваны наступны састаў Палітбюро: У. Гамулка, А. Завадзкі, Ю. Цыранкевіч, І. Лога-Савіньскі, Р. Замброўскі, А. Рапацкі, Е. Мараўскі, С. Ендрыхоўскі, Э. Охаб. Варта заўважыць, што яго склад была вырашана абмежаваць да дзевяці чалавек. У сакратарыят ЦК прапанавалі У. Гамулку, Р. Замброўскага, Э. Герэка, П. Ярасіньскага, Э. Охаба і Е. Альбрэхта [4, s. 361, 362, 363—364]. Такім чынам, на VIII пленуме ЦК ПАРП пытанне аб вяртанні Гамулкі ў вышэйшыя партыйныя органы павінна было канчаткова вырашыцца. Але тут умяшаўся савецкі бок.

**Польска-савецкія перамовы**. На пасяджэнні Палітбюро 18 кастрычніка 1956 г. Э. Охаб згадаў атрыманую ад савецкага пасла ў Польшчы П. Панамарэнкі інфармацыю пра жаданне кіраўніцтва КПСС прысланць дэлегацыю. Прычынай візіту быў названы непакой у сувязі з сітуацыяй у Польшчы і ростам антысавецкіх настрояў. Абмеркаваўшы магчымыя наступствы прыезду прадстаўнікоў СССР напярэдадні VIII пленума, і ў прыватнасці той факт, што насельніцтва можа расцаніць яго як спробу ціску на партыйнае кіраўніцтва, было вырашана прапанаваць савецкаму боку адкласці візіт на 20 альбо 21 кастрычніка. Аднак, як стала вядома, дэлегацыя ў складзе чатырох членаў прэзідыума КПСС прыбывала на наступны дзень, а 5-й гадзіне раніцы. У такой сітуацыі яе сустрэчу даверылі Охабу, Цыранкевічу, Гамулку і Завадзкаму [4, s. 364].

Яшчэ на аэрадроме стаў зразумелы агрэсіўны тон размовы, якую збіралася правесці савецкая дэлегацыя ў складзе М. С. Хрушчова, А. І. Мікаяна, В. М. Молатава і Л. М. Кагановіча з польскімі дзеячамі [9, с. 465, 467; 8, s. 216—218]. Прааналізаваўшы запіс перамоў, можна адзначыць, што савецкі лідар імкнуўся паўплываць на будучы склад Палітбюро, паказваў значную ролю Савецкага Саюза ў эканамічнай падтрымцы Польшчы і ўсталяванні пасляваеннай улады, адзначаў важнасць захавання Арганізацыі Варшаўскай дамовы [9, с. 465—501; 4, s. 365—399]. Дадатковым фактарам у арганізацыі ціску на польскі бок стаў рух савецкіх войскаў у напрамку Варшавы. Што датычыцца Гамулкі, то Хрушчоў адкрыта сказаў: «У нас не было ніякага настрою вас уводзіць у вярхоўныя партыйныя органы» [9, с. 498].

Падчас перамоў Гамулка паводзіў сябе дзёрзка. Ён не пагаджаўся з савецкім лідарам, часам задаваў непрыемныя для апошняга тон размовы. Польскі палітык прадставіў сваё бачанне прычын крызісу ў ПАРП і дзяржаве і падкрэсліў, што вярнуўся да ўлады толькі «для таго, каб выправіць становішча» ў краіне і «аднавіць давер членаў партыі і народа да кіраўніцтва партыі». Пры гэтым Гамулка дакладна акрэсліў балючыя моманты ў польска-савецкіх узаемадачыненнях, згадаўшы адсутнасць роўнасці ў міждзяржаўных адносінах (фактычнае ўмяшальніцтва СССР ва ўнутраныя справы ПНР), гандлёвым абмене, адзначыў злоўжыванні, якія ў грамадстве атаясамліваліся з савецкімі саветнікамі, у органах дзяржбяспекі, але заўважыў, што «сяброўства [з СССР] нам больш патрэбна, чым вам, і ўсе [...] гэта разумеюць» [9, с. 470—472, 474, 475, 490].

Доўгі абмен думкамі скончыўся на карысць польскай дэлегацыі. Як мяркуе шэраг даследчыкаў, прычынай гэтага стала не столькі цвёрдая пазіцыя Гамулкі і некаторых іншых палітыкаў, колькі інфармацыя, атрыманая Хрушчовым у перапынку размовы. У ёй адзначалася, што Кітай падтрымаў пазіцыю польскага боку і заявіў «аб правільнасці палітычных пераўтварэнняў у Польшчы» [10]. Ва ўмовах барацьбы за лідарства ў сацыялістычным лагеры ў сярэдзіне 1950-х гг. гэта сапраўды магло адыграць вырашальную для Польшчы ролю.

**VIII пленум ЦК ПАРП.** На VIII пленуме ЦК ПАРП (19—21 кастрычніка 1956 г.) Гамулка выступіў з рэзкай крытыкай сталінскай сістэмы кіравання краінай, заявіў, што чэрвеньскія выступленні рабочых у Познані былі накіраваны супраць памылак ПАРП і хібаў у сацыялістычнай мадэлі развіцця, падкрэсліў неабходнасць развіцця адносін з СССР на аснове суверэнітэту, раўнапраўя і сяброўства. Акрэсліваючы перспектывы перамен у краіне, палітык адзначыў неабходнасць рэформ у палітычнай і эканамічнай сферах [5, s. 224—225].

Па выніках працы пленума Гамулка быў абраны першым сакратаром ЦК ПАРП. У Палітбюро не ўвайшлі дзеячы, якія атаясамліваліся са «сталінскімі метадамі кіравання», а таксама К. Ракасоўскі. Выступленне Гамулкі на пленуме, адстойванне польскіх інтарэсаў падчас сустрэчы з савецкай дэлегацыяй спрыялі росту яго аўтарытэту ў грамадстве. Пра гэта сведчылі шматлікія мітынгі і маніфестацыі, якія праходзілі па ўсёй Польшчы.

Вяртанне У. Гамулкі да ўлады ў кастрычніку 1956 г. прывяло да паступовага зніжэння накалу ў польскім грамадстве. Зыходзячы з заяў новага партыйнага лідара, яно спадзявалася на лібералізацыю і нават дэмакратызацыю грамадска-палітычнага жыцця Польшчы, паляпшэнне эканамічнага становішча. Марнасць гэтых спадзяванняў стала відавочнай ужо ў наступны, 1957, год, калі паступова сталі згортвацца заваёвы «Кастрычніка» 1956 г., а краіна вярталася да старых метадаў кіравання.

## ЛІТАРАТУРА

1. Centrum władzy w Polsce. 1948—1970 / pod red. A. Paczkowskiego. Warszawa : ISP PAN, 2003. 307 s.
2. *Kozik, Z.* PZPR w latach 1954—1957. Szkic historyczny / Z. Kozik. Warzsawa : Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1982. 311 s.
3. *Орехов, А. М.* Советский Союз и Польша в годы «оттепели»: из истории советско-польских отношений / А. М. Орехов. М. : Индрик, 2005. 328 с.
4. Dokumenty centralnych władz Polskiej Zjednoczonej Partii Robotniczej marzec-listopad'56 / oprac., wybór i przygot. do druku M. Jabłoński [i in.]. Tom 3. Warszawa : ASORA-JR, 2009. 536 s.
5. *Friszke, A.* Polska. Losy państwa i narodu. 1939—1989 / A. Friszke. Warszawa : ISKRY, 2003. 518 s.
6. *Machcewicz, P.* Polski rok 1956 / P. Machcewicz. Warszawa : Mowią Wieki, 1993. 258 s.
7. *Werblan, A.* Władysław Gomułka a ugrupowania w partii w październiku 1956 roku / A. Werblan // Polska 1944/45—1989. Studia i materiały. T. 3: Polska 1956 — próba nowego spojrzenia. Warszawa : IH PAN, 1997. S. 79—89.
8. Centrum władzy. Protokoły posiedzeń kierownictwa PZPR. Wybór z lat 1949—1970 / oprac. A. Dudek, A. Kochański, K. Persak. Warszawa : ISP PAN, 2000. 440 s.
9. Запись беседы делегации Президиума ЦК КПСС и членов Политбюро ЦК ПОРП в Варшаве, состоявшихся 19 октября 1956 года // Славянский альманах. М. : Индрик, 2008. С. 465—509.
10. *Werblan, A.* Czy Chińczycy uratowali Gomułkę? / A. Werblan // Polityka. 26. X. 1991. Nr 43. S. 13.

## РЕЗЮМЕ

Рассматриваются внутренние и внешние причины, предпосылки политического кризиса 1956 г. в Польше. Определяется роль периодических изданий и интеллигенции в развитии кризиса, влияние рабочих выступлений на ситуацию в стране и ПОРП, возвращение В. Гомулки к власти.

## SUMMARY

The internal and external causes of political crisis of 1956 in Poland are considered in the article. The author defines the role of periodicals and the intellectuals in crisis growth, the influence of workers' protest actions on the situation in country and in the Polish United Workers' Party, return of W. Gomułka to power.

Статья поступила в редакцию 17 сентября 2011 г.